РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 26 (81) 12 – 19 ліпеня 1994 г. Кошт 300 рублёў

Навошта нашаму Прэзідэнту вынаходзіць ровар. У Беларусі й Расеі і так добрасуседзкія адносіны - ст.2.

Імкненьне да адмысловасьці выявіла яркае музычнае мысьленьне, якое аб'ядноўвае розныя стылі й напрамкі - ст.4.

За целам Віці прыехаў бацька. Маці не змагла - у хаце яшчэ двое маленькіх дзяцей - ст.8.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква – Санкт-Пецярбург.

## «ГАСПАДАРКА» ПРЭЗІДЭНТА ПАВЯЛІЧЫЛАСЯ

Нядаўна А.Лукашэнка падпісаў Указ аб стварэньні Ўпраўленьня справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Згодна Указу ліквідуюцца Галоўнае ўпраўленьне вытворча-гаспадарчых службаў і запаведнікаў, Галоўнае ўпраўленьне па прыёму ўрадавых дэлегацый Саўміна й лячэбна-аздараўленчае аб'яднаньне Ўпраўленьня Справамі Саўміна. Уся іх маёмасьць, архіўныя й іншыя дакументы перадаюцца. Ўпраўленьню справамі Прэзідэнта, якое ўзначаліў нардэп І.Ціцянкоў, стаўшы вядомым ў сувязі са стрэламі па яго машыне пад Ліёзна.

Гаспадарка новага Ўпраўленьня ўражвае: акрамя розных складзкіх памяшканьняў, аўтабазаў, пансіянтаў, адміністрацыйных будынкаў, сярод якіх гатэль "Кастрычніцкі", дом прыёмаў у жылым гарадку Драздны, інфармацыйна-культурны цэнтр, у яго ўваходзіць таксама дзяржаўны нацыянальны парк "Белавежская пушча", Бярэзінскі дзяржаўны біясфэрны запаведнік, Прыпяцкі дзяржаўны ландшафна-гідралагічны запаведнік, выдавецтва "Беларускі дом друку", паліграфічнае прадпрыемства, цэнтр па распрацоўцы і ўкараненьню інфармацыйных тэхналогій "Інфатэн", атэлье індпашыву адзеньня й абутку й шмат іншага. Усё гэта заклікана забясьпечыць фінансавую, матэрыяльна-тэхнічную й сацыяльна-бытавую дзейнасьць Адміністрацыі Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета, Апарата Кабінета Міністраў, Канстытуцыйнага Суда, Вярхоўнага Суда, Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь. Упраўляючы ўсёй гэтай маёмасьцю назначаецца на пасаду й вызваляецца ад яе толькі самім Прэзідэнтам.



Колькі год таму адным з любімых відаў адпачынку гарадзенцаў былі прагулкі па Нёману. Абслугоўвалі жадаючых водных вандровак цеплаходы "Віктар Вусаў", "Вольга Соламава" й хуткасны цеплаход "Зарніца". З-за непатрэбы хуткасны цеплаход парэзалі аўтагенам, прыкладна тое ж здарылася і з цеплаходам "В.Вусаў". Да канца мінулай навігацыі працавала "В.Соламава". На жаль, сёлета яна ня зьдзейсьніла ніводнага рэйсу. Няўжо й яе чакае доля "Зарніцы" й "Віктара Вусава".

**НА ЗДЫМКУ: "В.Соламава" у порце сярод іншага лому.**

**ФАТАГРАФАВАЎ В.ГАРОШКА.**

## ЖЫЦЬЦЁ «ЗАЙЧЫКА» БУДЗЕ ДОЎГІМ

Як стала вядома з добра інфармаваных крыніц, кіраўніцтва рэспублікі не зьбіраецца ў бліжэйшы час праводзіць грашовую рэформу з заменай грашовых знакаў. Аддрукаваныя ў Нямеччыне беларускія рублі новага ўзору й адчаканеныя там жа "грошы" ня будуць уводзіцца да таго часу, пакуль ня будзе спынена інфляцыя. Аб зьмене "зайцоў" на расейскія рублі таксама можна забыць: і Прэзідэнт, і прэм'ер Беларусі заўляюць, што Беларусь не падрыхтаваная да аб'яднаньня грашовых сістэм. Па словах старшыні праўленьня Нацбанка С.Багданкевіча, да выпуску ў абарачэньне рыхтуюцца новыя наміналы вартасьцю ў 10000 і 200000 рублёў. Ён заявіў таксама, што Нацбанк у чарговы раз прапанаваў ураду правесьці дэнамінацыю беларускіх грошай (г.зн., убраць адзін нуль).

## ЯК У СТАРЫЯ ДОБРЫЯ ЧАСЫ

Вельмі прыемны сюрпрыз быў зроблены членам садовага кааператыву, надзелы якіх разьмешчаны непадалёк Віцебска. Да надзелаў дачнікаў мясцовымі ўладамі падчас падрыхтоўкі да "Славянскага базару-94" быў пракладзены асфальт, прычым, зусім бязплатна. Праўда, гэта ня вельмі зьдзівіла дачнікаў, бо тут жа знаходзіцца лецішча старшыні Віцебскага аблвыканкаму Ўладзіміра Кулакова.

**СІМ**

## У ВЕРАСЬНІ КУРС ДАЛЯРА ПАВЯЛІЧЫЦЦА

Для такога прагнозу ёсьць падставы. Як паведаміў на прэс-канфэрэнцыі старшыня праўленьня Нацбанка С.Багданкевіч, НББ плянуе ажыцьцявіць буйнамаштабную крэдытную эмісію пад уборачную кампанію й ня будзе абмяжоўваць выдзяленьне крэдытаў сельскагаспадарчым вытворцам. Мяркуецца, што агульная сума крэдытаў вёсцы складзе 2 трыльёна рублёў. Нагадаем, што крэдытная эмісія ў суме каля 2 трыльёнаў рублёў пад пасяўную кампанію за два тыдні сакавіка абясцэніла беларускі рубель у тры разы.

Кіраўнік Нацбанка заявіў, што цяперашняя крэдытная эмісія носіць сязонны характар. Ён таксама адзначыў, што яна будзе пагашацца "за лік грамадзяніна, які будзе плаціць па больш высокіх цэнах за хлеб і іншыя прадукты харчаваньня." Калі ня будзе новых павелічэньняў зарплаты, то ўжо ў пачатку верасьня будзе поўнасьцю ліквідаваны крызіс наяўнасьці.

**СІМ**

## З ВАЎКАВЫСКУ ПА НІТЦЫ – І НАШЫ Ў ПАРЫЖЫ

У ліпені ў Парыжы адбыліся юнацкія спаборніцтвы па настольнаму тэнісу. Зборня Беларусі з 48 каманд заняла 14 месца.

Усіх ўдзельнікаў беларускай каманды прадстаўлялі менскія спартыўныя школы, й толькі адна Вольга Зінкевіч была з Ваўкавыску. На яе паездку патрабавалася 10 мільёнаў рублёў. На Ваўкавышчыне сабралі грошы, каб адправіць сваю зямлячку ў Парыж. Дзеля гэтага настаўнікі СШ N 6 нават адмовіліся ад дадатковай прэміі, а мясцовы прадпрымальнік Фелікс Якута не пашкадаваў і двух мільёнаў.

І дзякуй Богу, не дарэмна.

**А.ПЯТРОЎ.**

## КСЁНДЗ АНАТОЛЬ... НІЧОГА ПАКУЛЬ НЯ ВЫРАШАНА



Па інфармацыі, атрыманай у курыі Гарадзенскай каталіцкай эпархіі, ксёндз Анатоль, прыхільнік беларушчыны, ня едзе да Навагрудка.

Зараз ксёндз Анатоль знаходзіцца ў адпачынку й адначасова выконвае абавязкі віцэ-прэзідэнта гарадзенскай філіі дабрачыннай міжнароднай каталіцкай арганізацыі "Карытас".

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

## 80 ГАДОЎ ВЫРАБЛЯЕМ, А ДЛЯ СЯБЕ НЯ МАЕМ...

У 1914 годзе пачала працаваць першая печ на Ваўкавыскім цэментна-шыферным заводзе. Сёлета яму спаўняецца 80 гадоў.

У былым СССР прадпрыемства ў сваёй галіне лічылася лепшым у краіне. З ваўкавыскага цэменту будавалі тэлевежу Астанкіна, Асуанскую плаціну ў Эгіпце, Менскае мэтро. Праўда, не заўсёды хапала прадукцыі на будоўлю жыльля ў Беларусі.

Сёлета завод прадукуе 870 тысяч тон цэменту ў год, а на будаўніцтва жыльля яго зноў не хапае...

**М.СЬВЯТЛАНАЎ.**

## ГУЛЬНІ ДОБРАЙ ВОЛІ: БЛЯСК МЭДАЛЁЎ

Атлеты больш чым са ста краін сьвету на працягу двух тыдняў спрачаліся ў Санкт-Пецярбурзе за ўзнагароды Гульняў добрай волі. Як і меркавалася, найбольшую калекцыю мэдалёў атрымалі расейскія спарцмэны. На другім месцы ў агульнакамандным заліку з вялікім адрывам ідзе монстр - зборня ЗША. Тройку прызёраў замыкае Кітай.

Што тычыцца беларускай каманды, якая была заяўлена толькі ў 10 дысцыплінах з 25, то яе прадстаўнікі выступілі даволі добра: 8-ае вынікове месца, 22 мэдалі, з якіх 2 - залатыя.

Вельмі ўдала выступілі ў Санкт-Пецярбурзе нашы гімнасты. Мужчынская зборня атрымала "срэбра" у камандным заліку (Андрэй Кан, Віталь Рудніцкі, Аляксандр Шостак і Іван Паўлоўскі), Алена Піскун стала трэцяй на брусах. У спаборніцтвах па мастацкай гімнастыцы найбольш вызначылася Вольга Гантар ("срэбра" за абруч, мяч і стужку, "бронза" - за булавы і ў абсалютным першынстве). Добры "улоў" і ў весьляроў: Аляксандр Грамовіч стаў трэцім на каноэ-адзіночцы, Дзьмітрый Даўгалёнак і Аляксандр Масейкаў - на каноэ-двойцы. У скачках у ваду срэбраны мэдаль выйграў Андрэй Семянюк. У спаборніцтвах па цяжкай атлетыцы Алег Чырыца й Генадзь Шчакала сталі бронзавымі прызёрамі.

## ГЭТА – КАМЭРЦЫЙНАЯ ТАЙНА?

У апошнія гады ў горадзе Скідалі будуецца многа прыватнага жыльля сядзібнага тыпу. Але большасьці насельніцтва не да будоўлі, бо ў гэтым гаротным жыцьці даводзіцца ледзь-ледзь канцы з канцамі зводзіць. З гэтай нагоды многіх цікавіць адно рытарычнае пытаньне: за што будуюцца асабнякі - за свае сродкі ці за кошт крэдытаў ашчадбанка, і каму, у такім выпадку, гэтыя крэдыты выдаюцца на ільготнай аснове. З такім пытаньнем і зьвярнуўся аўтар гэтых радкоў да ўпраўляючай Скідальскім ашчадбанкам 8150 Л.І.Парай.

- Гэта камэрцыйная тайна, - адказала чыноўніца, - і гаварыць аб гэтым забараняецца.

Для поўнай упэўненасьці Лідзія Іванаўна дастала з шуфляды нейкую паперку й стала круціць ёю перад сваім носам.

- Дык укладчыкі ня маюць права ведаць, дзе й як выкарыстоўваюцца іх грошы? - спытаў я.

- Ну і што.

На гэтым размова была скончана.

А як на самой справе? У адказе вабласнога ўпраўленьня ашчадбанку за подпісам намесьніка начальніка ўпраўленьня Барысевіча гаворыцца, што ніякай дзяржаўнай і камэрцыйнай тайны няма. Такі адказ атрымала й Л.І.Парай. Але думаеце, папрасіла прабачэньня за падман? Нічога падобнага. Патрэбных дадзеных, каб азнаёміць з імі гараджан, да гэтага часу не дала, хаця прайшло больш за тры месяцы. Не бюракрат гэта?

Сваімі паводзінамі Л.І.Парай парушыла 34 артыкул новай Канстытуцыі, у якім гаворыцца, што "дзяржаўныя ворганы, грамадзкія аб'яднаньні, службовыя асобы абавязаны даць грамадзяніну РБ магчымасьць азнаёміцца з матэрыяламі, якія закранаюць яго правы й законныя інтарэсы."

Але ж выконваць патрабаваньні Канстытуцыі Л.І.Парай, відаць, не абавязкова. Чаму? Таму што яна чыноўніца ці папросту ...ай, надакучыла ўжо ўсё гэта.

А хто ж такая Лідзія Іванаўна? Мясцовая, нарадзілася ў вёсцы Некрашы, што побач са Скідалем, у сялянскай сям'і. Можа, гэта якраз ёй пасуе старая прыказка: "Ня дай Бог з мужыка пан".

**І.БАРЫСАЎ, укладчык, Гарадзенскі раён.**

**АД РЭДАКЦЫІ:** Мы зацікавіліся ўзьнятай І.Барысавым праблемай набыцьця крэдытаў і, ўвогуле, праблемай прыватнага будаўніцтва жыльля. Рэдакцыя рыхтуе шэраг матэрыялаў на гэтую тэму.

## БЕЛАРУСКІЯ СТРАЛКІ – ЛЕПШЫЯ Ў СЬВЕЦЕ

Сэнсацыйнай можна назваць перамогу беларускіх стралкоў на чэмпіянаце сьвету ў Мілане. І хаця ў складзе нашай каманды было нямала знакамітых снайпэраў, нават яны наўрад ці марылі, што прывязуць у Менск галоўны прыз спаборніцтваў.

Чэмпіянат сьвету - гэта сапраўдны марафон. Ён праводзіцца рэдка - адзін раз у чатыры гады. Але зьбіраюцца тут зоркі рознай велічыні больш чым са 100 краінаў, якія ў мностве дысцыплін вызначаюць пераможцаў. Як адзначыў галоўны трэнер зборні Эдуард Яраш, поўны склад каманды - каля ста чалавек. Зразумела, што адправіць у Італію такую колькасьць стралкоў не было магчымасьці. І таму зборня Беларусі сабрала толькі лепшых з лепшых. Яны й паехалі ў Мілан.

Ужо ў першы дзень спаборніцтваў вызначыўся экс-гарадзенец, а цяпер жыхар Менску, неадназовы чэмпіён сьвету і Эўропы Ігар Басінскі. У стральбе з пнэўматычнага пісталету з вынікам 682,2 ён заняў другое месца (на мінулым першынстве кантынэнту ў гэтай дысцыпліне Ігар быў толькі шостым). А потым пайшлі справы выдатна і ў іншых беларускіх снайпэраў: Сяргея Мартынава, Георгія Нахая, Вольгі Пеграбняк, Канстанціна Лукашыка...

Першае месца ў агульнакамандным заліку - гэта ня толькі посьпех у Мілане. Зборня Беларусі як лідэр атрымала яшчэ пяць пуцёвак на Алімпійскія гульні ў Атланту. Гэта значыць, што ў 1996 годзе на агнявым рубяжы зноў можна чакаць перамог. Так, дарэчы, было ў Сеуле (1988 г.) і Барсэлоне (1992 г.), калі гарадзенцы Ірына Шылава й Канстанцін Лукашык сталі алімпійскімі чэмпіёнамі.

**Г.ВАСІЛЕВІЧ.**



ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА



# ДОБРАСУСЕДЗТВА - РЭЧ СЛУШНАЯ, АЛЕ!..

Візыт Прэзідэнта Беларусі да Першапрыстольнай. Падпісаныя ім пагадненьні й зробленыя заявы не пакідаюць абыякавымі гарадзенцаў. Да рэдакцыі тэлефануюць, заходзяць, каб выказаць свае меркаваньні, погляды. З больш слушнымі выказваньнямі "Пагоня" знаёміць сваіх чытачоў.

**Аляксандр Крушнер**, арэндатар: "Канешне, добрасуседзтва - гэта рэч слушная. Трэба жыць з суседзямі ў міры й павазе. Хопіць на нашай зямлі войнаў, крыві, разбурэньняў. Калі з такога пункту гледжаньня ставіцца да візыту нашага Прэзідэнта, то ягоная паездка да Масквы й сустрэчы з Ельцыным і Чарнамырдзіным можна разглядаць як пасьпяховыя. Калі ж чуеш, што беларускі Прэзідэнт у Маскве падпісаў пагадненьне аб тым, што Беларусь будзе ўзгадняць з Расеяй цэнавую палітыку ды іншае, робіцца сорамна. Няўжо мы, беларусы, павінны радзіцца з кім-кольвечы, колькі ў нашай дзяржаве будзе каштаваць мяса, хлеб, малако. Для мяне гэта сьмешна, бо гаспадаром плёну сваёй працы я сябе не адчуваю. Наноў за мяне будуць вырашаць, разьмяркоўваць чужыя дзядзі. Я ж хацеў бы напрамую ці праз сетку дылерскіх фірмаў гандляваць з Расеяй і з іншымі, сам сабе закупляць энерганосьбіты, тэхніку ды іншае. А так ёсьць небясьпека, што мы й застаемся ў калгасна-саўгаснай сістэме. Размовы пра рэформы - гэта прыгожая міна пры дрэннай гульні."

**В.Жук**, пэнсіянер: "Зноў нас палохаюць прывідам СССР. Зноў размовы аб блізкім палітычным і эканамічным саюзе Беларусі й Расеі. Ня ведаю, навошта нашаму маладому Прэзідэнту вынаходзіць ровар. У Беларусі й Расеі і так добрасуседзкія зносіны. Давайце палічым, колькі беларусаў жыве на тэрыторыі Расейскай Фэдэрацыі й колькі рускіх ды прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў жывуць у нас на Беларусі. Хто з імі будзе сварыцца ці дужацца сілай? Упэўнены, што ніхто. Але чаму расейскае кіраўніцтва так хутка гасьцявала ў сябе беларускага Прэзідэнта? Мне падаецца, што Расеі больш патрэбная Беларусь, чым Беларусі - Расея. Тлумачэньне тут досыць простае. Першае - каб мець транзытныя паветраныя, чыгуначныя, шасэйныя й падземныя шляхі ў Эўропу. Расея сьпяшае скарыстаць добразычліўцаў-беларусаў на сваім шляху да Эўропы. Мы ж, наадварот, раз-пораз заяўляем, што наш шлях да Эўропы праз Усход. Прабачце, але гэта той самы ровар, які вынайшаў урад-папяраднік і які так ахвотна жадаюць скарыстаць Прэзідэнт і яго каманда. Другое - Крэмль усё больш адчувае на сабе прэс патрабаваньняў Прыбалтыцкіх краін аб вывадзе з іх тэрыторый расейскіх войскаў. Прыбалты дзейнічаюць шляхам апэляцый да гэтай праблемы сваіх урадаў праз разнастайныя міжнародныя арганізацыі. Хочаш-ня хочаш, а Расеі трэба пагаджацца. Адсюль і жаданьне Крамля падоўжыць час тэрміну вываду расейскіх войскаў з нашай тэрыторыі. Трэцяе, - гэта тое, што нам наноў абяцаюць газ і нафту. Абяцанкі гучаць таропка й няўпэўнена. Загучалі яны пасьля таго, як беларусы цьвёрда загаварылі аб закупцы энерганосьбітаў на Блізкім Усходзе. Трэцяе вынікае з дзьвюх першых, бо страта Беларусі азначае для Расеі вялікі пройгрыш у эўрапэйскай палітыцы."

**Хведар Дзіскавец**, маёр узброеных сілаў Беларусі: "Мы распачалі будаваць сваю дзяржаву, свае войска, межы, зьнешнепалітычную й эканамічную інфраструктуры. Здавалася б, трэба ісьці наперад. Колькі год мы маршыруем па прынцыпу "на месцы крокам руш". Абралі Прэзідэнта - і тут тое самае. Прэзідэнт засьведчыў сваё прыязнае стаўленьне да ўсходняга суседа. Сусед запатрабаваў за будучы эканамічны й рублёвы саюз хуткіх рэформаў. Ці стае сілы ў Прэзідэнта й яго каманды ажыцьцявіць задачы? Вельмі складана, бо найперш знойдзецца шмат нежадаючых, а па-другое, каб рэарганізаваць эканоміку дзяржавы, скіраваную ў асноўным на патрэбы такой велізарнай вайсковай машыны, як Савецкая Армія, спатрэбіцца дзесяцігоддзі й праца не аднаго пакаленьня. Раздаваць гаранты, што праз восем-дзесяць месяцаў усё будзе добра - не сур'ёзна. Разьлічваць на ваенныя заказы Расеі - гэта неабачліва. Я - вайсковец і маю шмат сяброў у расейскім войску. Дзякуючы іх сяброўскім аповядам, ведаю: расейскае войска напярэдадні свайго новага эвалюцыйнага кроку. Так што таго, што патрабавала ад беларускай прамысловасьці Савецкая Армія, рэфармаванаму войску Расеі наўрад ці спатрэбіцца надоўга. Ніякія абяцанкі, гаранты й крэдыты замежжа ня вывядуць Беларусь з палітычнай і эканамічнай багны да таго часу, пакуль мы ня будзем адчуваць сябе гаспадарамі й не пажадаем мець сваю хату - дзяржаву - незалежнай эўрапэйскай краінай."

# КАНФЭСІІ

## КАНТАКТЫ БУДУЦЬ ШЫРЫЦЦА

У кафэдральным Сьвята-Пакроўскім саборы Горадні з удзелам Мітрапаліта-Філярэта Менскага й Слуцкага адбыўся сход праваслаўных сьвятароў Гарадзенскай эпархіі. На сходзе прысутнічала больш за 40 бацюшак.

- У нас па Гарадзенскай Эпархіі,- гаворыць настаяцель Сьвята-Пакроўскага сабору айцец Генадзь,- ёсьць чатыры благачыннасьці. Штогод па чарзе мы, сьвятары, зьбіраемся, каб у вузкім гроне вырашаць самыя набалелыя пытаньні. На сходзе, прысьвечаным Гарадзенскай благачыннасьці, абмяркоўваліся праэкты для новых узаемадзеяньняў паміж царквой і эпархіяй, паміж сьвятарамі й вернікамі.

Г.ДАМІНІКАНСКІ.

## «ШЭВЕТОНЬ» ДАПАМАГАЕ БАЗЫЛЬЯНСКАМУ КЛЯШТАРУ

На адрас Базыльянскага жаночага кляштару Горадні прыйшла фінансавая дапамога ад дабрачыннай арганізацыі абатаў Заходняй Эўропы.

На запыт карэспандэнта "Пагоні" настаяцельніца кляштару матушка Гаўрыіла адказала: "Грошы, што прыйшлі ад арганізацыі "Шэветонь", мы скарыстаем на рэстаўрацыю іконаў для іканастасу галоўнай царквы кляштару. Аднавіць жа іканастас без дапамогі замежжа нам не стае сілы, бо рэстаўрацыя аднаго іконы каштуе 35-40 мільёнаў беларускіх рублёў.

Г.ДАМІНІКАНСКІ.

## ПРАВАСЛАЎНЫЯ СЭМІНАРЫСТЫ АТРЫМАЮЦЬ БІБЛІЯТЭКУ АД КАТАЛІКОЎ

Дабрачынны фонд абатаў Заходняй Эўропы "Шэветонь" забавязаўся на свае сродкі зарганізаваць для Менскай праваслаўнай сэмінарыі ў Жыровічах бібліятэку тэалягічнай ды іншай літаратуры.

Такое стала магчымым толькі дзякуючы асабістым зносінам кіраўніцтва экзархату праваслаўнай царквы на Беларусі з фондам "Шэветонь".

Г.Н.

## ПЯКАРНІ Ў КЛЯШТАРЫ НЯ БУДЗЕ

Газэта "Пагоня" паведамляла, што ў Базыльянскім кляштары Горадні з дапамогай дабрачыннага фонду абатаў ордэна сьвятога Бэнэдыкта меркавалася пабудаваць невялічкую пякарню, вырабы якой раздаваліся б адзінокім і малазабясьпечаным сем'ям.

На жаль, гарадзенскім манахіням прыйшлося адмовіцца ад задумы, бо муку, маргарын, дрожжы давядзецца купляць за свае грошы, якіх у касе кляштару няма.

Г.ВАСІЛЕВІЧ.

## ДА БОГА ПРАЗ «НОВЫ ІЕРУСАЛІМ»



Нядаўна Горадню наведала маладзёжная арганізацыя хрысьціян-каталікоў "Новы Іерусалім". Тэрмін побыту на Гарадзеншчыне прадстаўнікоў "Новага Іерусаліма" працягваўся два тыдні, падчас якога юнакі й дзяўчаты гэтай арганізацыі далі шмат самадзейных канцэртаў на вуліцах Горадні і ў вёсках Гарадзенскага раёна.

На запыт кар. "Пагоні" актывістка "Новага Іерусаліма" Ванда Смулковіч распавяла так: "У душы кожнага чалавека жыве Бог. Сваімі песьнямі, танцамі мы жадаем абудзіць гэтыя душы, каб сьветлы вобраз уваскрос і назаўжды застаўся ў іх. Вандроўку па Гарадзеншчыне лічым вялікім пачаткам абуджэньня душаў у краіне, дзе вера ў Бога прыцісканая."

Маркуем штогод прыязджаць на Беларусь і ня ў храме, а проста на вуліцы расказваць людзям пра Ўсявышняга.

**НА ЗДЫМКУ: удзельнікі "Новага Іерусаліма" канцэртуюць у Горадні.**

**Фатаграфаваў В.ГАРОШКА.**

## У СПАЖЫЎЦОЎ ЗЬЯВІЎСЯ АБАРОНЦА

У мінулым месяцы распачало дзейнасьць Ашмянскае грамадзкае аб'яднаньне спажыўцоў.

За кароткі тэрмін існаваньня сябры арганізацыі па скаргах грамадзян праверылі шэраг гандлёвых кропак. Імі, у прыватнасьці, высьветлена, што гандлёвая аптовая база атрымала 240 кілаграмаў селядцу, і толькі пяць з іх былі накіраваныя ў крамы гораду. Таксама стала вядома, што ў краму будматэрыялаў было завезена 36 найменьняў тавару, але ж ні на адзін з іх не было накладных, а ў харчовай краме N 5 замест гіраў выкарыстоўвалі пачак вафель. Гэтыя і іншыя факты паслужылі падставай для напісаньня матэрыялаў аб выніках праверак. І ўжо трэцяга жніўня яны былі зьмешчаныя ў газэце "Ашмянскі веснік" на асобнай старонцы "Погляд спажыўца".

Ул.інф.

# ПАСЬЛЯ ВАЙНЫ ГРЫМЕЛІ СТРЭЛЫ

**У кнігарнях зьявілася кніга Яўгена Сямашкі "Армія Краёва на Беларусі". Сёньня ў нашай краіне гэта адно з першых дасьледаваньняў па дадзенай тэматыцы. Сьведчаньне таму - багаты разьдзел бібліяграфіі. Аўтар спасылаецца на ўспаміны відавочцаў, архівы КДБ, публікацыі ў друку, польскія крыніцы.**

Каштоўнасьць выданьня для нас, жыхароў Гарадзеншчыны, заключаецца ў тым, што большасьць падзей адбывалася на тутэйшых тэрыторыях. Абшары дзейнасьці Арміі Краёвай ахоплівалі ня толькі Заходнюю Беларусь, але й прасьцягаліся далей на ўсход: Менск, Гомель, іншыя гарады. Пры гэтым захоўвалася глыбокая канспірацыя, падтрымлівалася цесная сувязь, культываваліся ўпэўненасьць у дасягненьні стратэгічных мэтаў...

Дагэтуль мы мала ведалі пра АК. Тэма была закрытай. Вось пра савецкіх партызанаў, дывэрсійныя групы з Вялікай Зямлі, усенародную барацьбу з фашызмам напісана многа. Колькі кандыдатаў і дактароў гістарычных навук вырасла на паказе ролі КПСС у разгортваньні супраціву нямецкай навале! І ніхто практычна не закранаў узаемадзеяньня народных мсьціўцаў - чырвоных партызанаў - са змагарамі з Арміі Краёвай. "Белыя плямы" зьяўляліся не па волі вучоных, а тых, хто сачыў за гістарычнай навукай. Лепш сказаць, за ідэалагічнай накіраванасьцю й чысьцінёй.

Першыя газэтныя й часопісныя публікацыі пра Армію Краёву больш нагадвалі шпурляньне камянёў у чужы агарод, чым асэнсаваны падыход да асьвятленьня праблемы. Матэрыялы вылучалі суб'ектывізм і пэўны, раней зададзены накірунак. Пераваладваў шэры колер з пераходам да чорнага. Урывачныя зьвесткі аніяк не маглі скласьці агульнай карціны.

І вось работа Яўгена Сямашкі. Ён не гісторык, не вучоны. Лепш сказаць - аматар-дасьледчык. Па адукацыі - журналіст. Першыя артыкулы аб дзейнасьці АК надрукаваў яшчэ ў часопісе "Политический собеседник", выданьні ЦК КПБ. Дарэчы, як і першыя часопісныя артыкулы, кніга прасякнута прасавецкім настроем выпускніка ВПШ. Беларускай, дзяржаўнай пазыцыі, якая б, здаецца, павінна была б зараз зьявіцца ў ужо, здавалася б, не камуністычных аўтараў і, вядома, адпавядала б аб'ектыўнасьці, няма. А тое, што аўтар прыводзіць многа дакумэнтаў з архіваў КДБ, то сёньня, напэўна, ні для каго не сакрэт, што шмат якія з іх выклікаюць сумненьне.

Аўтар імкнецца даць як мага больш інфармацыі пра АК. Даволі падрабязна дасьледуе міжваенны час, распавядае пра папярэднікаў Арміі Краёвай, іх разгром ворганамі НКУС, арышты й дэпартацыі. Тут патрабуецца тлумачэньне. "Саюз узброенай барацьбы" - прадвесьнік АК - ставіў за мэту адраджэньне Польшчы ў межах да 17 верасьня 1939 года. Адсюль і канцэпцыя "двух ворагаў" - СССР і Нямеччыны. Яны будуць зьнясільваць адзін аднаго, а падпольныя арганізацыі АК - рыхтавацца да рашаючага часу.

У кнізе прыводзіцца перапіска лёнданскага ўраду Польшчы на эміграцыі, а таксама палявых каманьдзіраў.

Пэрыяд вайны заслугоўвае асаблівай увагі. Напачатку з гітлераўцамі змагаліся й савецкія партызаны, і акоўцы. Была пэўная згода й паразуменьне. Хісткую раўнавагу парушыла высокая палітыка, а дакладней - разрыў адносін савецкага ўраду з польскім урадам на эміграцыі. АК была прызнаная варожай арганізацыяй, якую неабходна было раззброіць і ізаляваць.

Менавіта з сярэдзіны 1943 года пачасьціліся сутычкі паміж варагуючымі бакамі - АК і савецкімі партызанамі. З абодвух бакоў палегла не адна сотня змагароў. Аўтар прыводзіць гэтую сумную статыстыку, вытрымкі з перапіскі й дакладаў кіраўнікоў атрадаў.

Дык як ставіцца да Арміі Краёвай? Да спроб рэабілітацыі тых, хто ня склаў зброю, а змагаўся аж на да 26 красавіка 1954 года? Дзе-ніздзе ім сёньня на Беларусі пастаўлены помнікі (напрыклад, аднаму з апошніх кіраўнікоў АК Навагрудзкай акругі Мацею Калянкевічу, які загінуў у сутычцы з савецкай часткай). Лічыць іх ветэранамі, чаго дамагаюцца пэўныя колы? На якой падставе? Іх зброя была накіраваная ў сэрца кожнага з нас. Гэта бандыты.

Відаць, трэба падыходзіць канкрэтна да кожнага акоўца. Няма на руках крыві людзкой, змагаўся супраць фашыстаў - адны адносіны. Падняўся супраць беларускага народа, насаджаў тэрор і сеяў сьмерць - вораг. Дарэчы, у суседняй Летуве прынялі адназначнае рашэньне ў адносінах АК: ніякай рэабілітацыі.

Якое рашэньне будзе прынята ў Беларусі? Пэўная падказка ўтрымліваецца ва ўзгаданай кнізе.

В.ЗАДАЛЯ.



# МАЛАДЗЁЖНАЯ СТАРОНКА

**Ва ўмовах сёньняшняй эканомікі склаліся цяжкія абставіны для існаваньня шматлікіх выданьняў. Цікавай інфармацыі, якую б магла атрымаць моладзь, ня так шмат. Цяпер жа праблемы моладзі яшчэ часьцей адыходзяць на другі плян. Каб хоць неяк выправіць гэтае становішча, гарадзенская маладзёжная арганізацыя "БіС" (Беларусь і Сучаснасьць) зьвярнулася ў рэдакцыю "Пагоні" з прапановай стварыць старонку для моладзі, на якой будзе разьмешчана разнастайная інфармацыя пра сучасную, айчынную й замежную музыку, навіны грамадзкага й культурнага жыцьця моладзі рэспублікі, інтэрв'ю з цікавымі людзьмі... Сёньня выходзіць першая старонка.**

**Калі наша ідэя прыйшлася вам да густу, і калі ў вас ёсьць нейкія прапановы альбо заўвагі, пішыце нам на адрас "Пагоні" з допісам "БіС". Будзем старацца, каб з намі не было сумна.**

**Аргкамітэт.**

## ЗАДАВАЛЬНЕНЬНІ КАШТУЮЦЬ ГРОШАЙ, КАХАНЬНЕ – БЯСЦЭННАЕ

Сустракаю нядаўна свайго знаёмага, студэнта. Традыцыйнае: "Як справы?" "Нармальна". "А што ты такі хмуры? Сэсію ня здаў ці што?"- пытаю. "Ды не. Абяцалі стыпендыю выплаціць за летнія месяцы, але не далі. А грошы вельмі патрэбныя: закахаўся я..."

Закаханасьць. Напэўна, кожны прайшоў праз яе. Чалавек, знаходзячыся пад яе уплывам, становіцца больш добразычлівым, упэўненым у сабе, у яго ўзьнімаецца настрой. Але гэта ў мінулым: ня тое зараз становішча на Беларусі. Таму я спачуваю свайму знаёмаму, бо ўсьлед за закаханасьцю да яго прыйшла разгубленасьць. Закахацца ж можа кожны. Але заляцацца да дзяўчыны (жанчыны), дамагчыся яе прыхільнасьці значна цяжэй, бо адразу паўстае грашовае пытаньне. Заможным з гэтым прасьцей. А што рабіць простаму шэраговаму чалавеку? Увогуле, колькі трэба грошай, каб выглядаць годна ў вачах каханай?



Па-першае, кветкі. У ідэале іх трэба было б прыносіць на кожнае спатканьне. Добрая ружа абыйдзецца ня менш чым у 10 тысяч. Ёсьць і больш танныя: па 2-8 тысяч. Але ж калі вы падорыце такі букецік сяброўцы, яна можа не зразумець вашага гумару, і, што ня выключана, пажадае разьвітацца з вамі пасьля такога ўчынку. Можна абыйсьціся гваздзікамі па 3-7 тысяч за кожную. Калі ж "фінансы сьпяваюць рамансы", давядзецца рваць кветкі на якой-небудзь клюмбе ці кветніку (у гэтым выпадку вы рызыкуеце трапіць на вочы міліцыянтам).

Па-другое, трэба яксьці праводзіць час. Немагчыма ж увесь дзень сядзець дома альбо дзе-небудзь на лаўцы. "Падарожжа" па вуліцах Горадні тоіць небясьпеку... для вашага кашалька. Бо амаль на кожнай з іх ёсьць хаця б адзін камэрцыйны шапік ці крама. Ня выключана, што сяброўка пажадае атрымаць адтуль жавальную гумку ці які-небудзь "Сьнікэрс", калі ня штосьці больш значнае. Лета... і спакусаў так шмат.

Можна пайсьці ў кавярню ці бар. Стандартны набор- лёды, піражнае, сок ці кава - ня менш пяці тысяч на чалавека. Традыцыйнае месца адпачынку - кіно. Білет у відэазалю каштуе "штуку", у кіно - 1.200 рублёў. Калі ж ваша сяброўка аматар "клубнічкі" накшталт "Эманузлі", то вас "нагрэюць" ужо на 7.200 рублёў. У большменш прыстойным кінатэатры ёсьць буфэт. Магчыма, і там вам давядзецца раскашэліцца тысяч гэтак на пяць-дзесяць (па мінімуму).

Цудоўна можна правесьці час у заапарку, але зноў жа патрэбныя грошы: уваход каштуе тысячу рублёў. Калі ваша сяброўка - аматар музыкі, любіць на другіх паглядзець і сябе паказаць, то вас чакаюць дыскатэкі. Пяць тысяч за білет у Палац тэкстыльшчыкаў, шэсьць - у кінатэатр імя Пушкіна, і адпачывайце, калі ласка.

Летам працуюць атракцыёны ў гарадзкім парку культуры й адпачынку. Задавальненьне пакатацца на любым з іх каштуе пяць тысяч.

Нельга забываць, што ёсьць дзень нараджэньня, 8 Сакавіка, шэраг іншых дзяржаўных і недзяржаўных сьвятаў. І ўсё гэта - дадатковыя выдаткі.

Каб не саромецца зьявіцца на людзі й на вочы сваёй дзяўчыне (жанчыне), трэба абнавіць гардэроб, а на гэта патрэбна яшчэ не адна сотня тысяч рублёў. І ўсё гэта пры тым, што стыпендыя (калі яе своечасова выплачваюць) складала 85% ад мінімальнага заробку. Хтосьці скажа: "Самім трэба зарабляць". Але ж у такім выпадку, ці застанецца час і ахвота хадзіць на спатканьні?

Тут можна было б заенчыць аб тым, як дрэнна жывецца моладзі, зноў пачаць разважаць пра сацыяльна-эканамічнае становішча ў рэспубліцы. Але ж ці варта, бо колькасьць парачак на вуліцах Горадні не зьмяншаецца, хлопцы дораць сваім сяброўкам звычайныя рамонкі замест шыкоўных ружаў, частуюць іх у студэнцкіх сталоўках, а не ў рэстаранах. І, што суцяшае, –неразбэшчаная слабая палова чалавецтва здольная гэта ацаніць. Значыцца, ня ўсё яшчэ настолькі дрэнна на Беларусі.

**А.ВОЛАТ.**

## ІХНІ ПРЫКЛАД НАТХНЯЕ

**У лістападзе 1988 года ў аргкамітэт БНФ прыйшоў малады чалавек і прапанаваў сваю дапамогу. На пытаньне, што ён умее рабіць, адказаў бяз усьмешкі: "Браць языкоў". Прапанова аказалася сур'ёзнай. Валеры Буйвал, загадчык аддзелам Нацыянальнага мастацкага музэю Беларусі, ужо дзесяць год праводзіў у сваім музэі экскурсійную й навукова-дасьледчую працу на 15 мовах.**

З мастацтвазнаўцам неадназова сустракаліся "искусствоведы в штатском", настойліва прапануючы працаваць на КДБ, пісаць пасьля сустрэч з замежнымі дзеячамі культуры "справаздачы". Супрацоўніцтва не адбылося. Памятаючы пра вынішчаную ў ГУЛАГу палову сваёй сям'і, Буйвал па-іншаму разумеў свой грамадзянскі абавязак і пагэтаму пайшоў у БНФ.

У камісіі замежных сувязяў Народнага Фронту шмат клопатаў. Ня толькі інфармаваць сьвет пра дэмакратычны рух на Беларусі, але й рабіць тое, чым павінен бы займацца нармальны ўрад краіны: своечасова паведамляць пра чарнобыльскую бяду й шукаць дапамогі, наладжваць кантакты з міжнароднымі арганізацыямі, парлямэнтамі і ўрадамі, стомленымі ад цьвердалобага масквацэнтрызму менскага кіраўніцтва. Прыйшлі нарвэскія журналісты – трэба патэлефанаваць у Парыж і ехаць на палітычную канфэрэнцыю ў Варшаву. Буйвал ды іншыя калегі з камісіі пастараюцца не падвесьці.

**- Як гэта табе ўдаецца? Людзі ж навокал лямантуюць, баяцца абцяжарыць мазгі беларускай мовай.**

- Калі я вучыўся ў Ленінградзе на факультэце гісторыі мастацтва Акадэміі Мастацтваў, там панавала атмасфэра сапраўднага культурнага супрацоўніцтва моладзі з усяго сьвету. Кожны - араб, якут або ўкраінец - імкнуўся пазнаёміць сяброў са сваім нацыянальным мастацтвам, паэзіяй, мовай і паглыбіцца ў культуру іншых народаў.

Калі я вярнуўся ў родную Беларусь, то са зьдзіўленьнем убачыў, што ў Нацыянальным музеі правесьці экскурсію на беларускай мове ў стане толькі беларусы-выпускнікі ленінградзкіх і маскоўскіх інстытутаў. Зразумеў, што над студэнтствам у БССР праводзіўся разбуральны экспэрымэнт, вынікам якога сталі сьмешнае жаданьне "быть истинно русским" і нудны правінцыялізм. Расейцамі ня сталі, а беларусамі быць перасталі... Трагедыя, псыхічны крызіс! А як раз ведаць мовы, сьмела ісьці ў шырокі сьвет і шанаваць культурныя каштоўнасьці сваёй Радзімы заўсёды было ў традыцыі нашага народу. Успомнім грамадзян Эўропы Скарыну, Гусоўскага... Ды што там, кожны адукаваны беларус размаўляў на трох-чатырох мовах.

Іхні прыклад натхняе...

**Алесь Шаршнеў.**

## РОК-АЙЛЭНД ЯК ЁСЬЦЬ

**Creedence clearwater Revival traveling band**

За параўнальна кароткі час свайго існаваньня рок-музыка стала больш разнастайнай. І сёньня, калі ўжо не ў навіну рок-опэры, рок-араторыі, рок-балеты й г.д., цяжка ўявіць, што наогул усё пачалося з бязхітрасных песенак Элвіса Прэсьлі.

Удасканаленьне формаў і сродкаў выяўленьня року прыводзіць да некалькі нечаканага, на першы погляд, выніку - узьнікненьня новай хвалі інтарэсу да каранёў гэтай музыкі. Узьнікаюць ці набываюць посьпех гурты, якія граюць больш простыя, танцавальныя мэлёдыі.

Гэта датычыцца й посьпеху амэрыканскага гурта "Крыдэнс Кліэўотэр Рывайвэл", які больш ведаюць пад скарочанай назвай "Крыдэнс".

У складзе ансамбля 4 чалавекі: гітарыст і сьпявак Джон Фагэрці, гітарыст Том Фагэрці, басіст Сьцю Кук, перкусіст Дуг Кліфард (па мянушцы Косма). Разам яны пачалі іграць у 1959 годзе, калі яшчэ вучыліся ў школе. Спачатку выступалі на школьных вечарах і танцавальных пляцоўках.

Пад канец 1967 года гурт "Крыдэнс" пачынае запісваць новы альбом "Greedence Clearvater Revival". У яго ўвайшлі як клясычныя песьні рок-н-рола, так і ўласныя кампазыцыі Джона Фагэрці. Фірма грамзапісу хацела даведацца аб рэакцыі слухачоў, перадаўшы плёнку радыёстанцыі. Гэта была першая рэкляма першага дыска "Крыдэнса", які ўбачыў сьвет у 1968 годзе. Выйшлі дзьве "саракапяткі" - "Сьюзі Кью" і "Я зачараваў цябе". Яны адразу ўвайшлі ў нацыянальныя хіт-парады.

Годам пазьней выходзіць другі дыск гурта са знакамітай песьняй "Ганаровая Мэры" - кампазыцыяй Дж. Фагэрці, якая лічыцца адной з найлепшых у сусьветным року.

Да пачатку 70-ых, асабліва пасьля выхаду дыскаў "Green River" (1969), "Willy and The Poorboys" (1970), "Крыдэнс" стаў найбольш раскупальным гуртом у гісторыі амэрыканскай музыкі. Але наступны дыск "Cosmo's Factory" стаў паваротным у лёсе калектыву.

Музыкантаў больш не цікавіла тое, што яны робяць. Камэрцыйны посьпех перашкаджаў далейшаму разьвіцьцю калектыва. Джон Фагэрці спрабаваў пашырыць рамкі, якімі гурт сам сябе абмежаваў, але новы дыск "Pendulum" атрымаўся значна слабейшым за астатнія.

З гурта выйшаў Джон Фагэрці. Застаўшыся ўтрох, музыкі зрабілі сусьветнае турнэ, выпусьцілі канцэртны альбом "Live in Europe" і новы дыск "Mardi Dras" (1972) - самы вядомы ў гісторыі калектыва.

У кастрычніку 1972 года гурт "Крыдэнс" спыніў сваё існаваньне.

**Падрыхтаваў М.ГАЦУК.**

## ІХ ЗДЫМАЮЦЬ, А ЯНЫ СЬПЯВАЮЦЬ

Іх першыя запісы мне паставілі гадоў восем таму: вось, маўляў, жывая кроў беларускага року. Магнітаальбомы мелі назвы "Стары храм" і "Зрок". З аднолькавым посьпехам, аднак, яны маглі б называцца "Трохсабачая ноч" і "Не чакай мяне, маці, добрага сына". Падвальную какафонію з сіплага голасу й гітарнага скрэгату завяршалі адчувальныя ўдары талерак. "Эх, на жаль, запіс дрэнны, бачыў бы іх на сцэне, услухайся б у тэксты! - абураўся мой новы знаёмы. - І не фальшываць, яны ня толькі пяюць па-беларуску, але і ў жыцьці шчырыя беларусы..." Пазьней, у колах "малога" камсамольскага ЦК пачуў ад функцыянэраў, што "Мроя", "Бонда" - музычныя галінкі нараджаючагася Народнага Фронту, перад якім даюць "падпольныя канцэрты" і, ўвогуле, на кручку ў КДБ.

Памятаю бясьсільле, адчай, якія мігалі ў іх вачах падчас курылачных "тусовак": "Групы па нявытлумачаных прычынах здымаюцца за дзень да аб'яўленага канцэрту." За мову прычапілі ярлык "нацыяналістаў". Праграмы не атэставаліся з-за "слушнага" довадў: музыка "не подходит" да тэкстаў. "Усё ж надта яны сярдзітыя, быццам у Сібіры адседзелі," - сказала мне кабета з гарвыканкама...

Увогуле, "іх" норавы ня надта зьмяніліся. Вось "казус", з якім сутыкнулася каманда "Крама" ў пачатку гастрольнага турнэ па Беларусі "Рок за БНФ", якое прайшло 10 чэрвеня сёлета ў Барысаве. За тры дні да выступу ў гарадзкім парку культуры й адпачынку, "как и полагается", быў атрыманы дазвол мясцовага аддзелу культуры. Але, даведаўшыся пра дэвіз канцэрта, "товарищ Кануцэвіч", барысаўскі мэр, пагрозьліва нахмурыў бровы й наклаў вусную рэзалюцыю: "не пущать", пісьмовы прыпіс аб забароне паабяцаў зрабіць пазьней. Трэба думаць, ён прадставіць яго перад вачыма "крамчукоў" у судзе, куды хлопцы зьбіраюцца падаць іск за зрыў выступу.

Усё ж выхад на людзі лепшых з новай генэрацыі камандаў адбыўся. Сёньня "Мроя", "Новае неба", "Крама", "Уліс", "Палац" прымаюць удзел у радыё- й тэлевізійных шоу, бяруць прызавыя месцы на міжнародных фэстывалях, запрашаюцца на гастролі на Захад, ствараюць уласную "дыскаграфію". Проста ў залу праз іх песьні зышоў малады адраджэнец, які глыбока пакутаваў ад страты сваіх каранёў, гістарычнай памяці, адчужэньня паміж людзьмі і ў якога ўсё добра з густам і інтэлектам. Імкненьне да адмысловасьці выявіла яркае, арыгінальнае музычнае мысьленьне, якое аб'ядноўвае розныя стылі й напрамкі ад "хэві" й "панк" да народных сьпеваў і клясычнай музыкі. А яшчэ ў песьнях, настояных на болі й пакаяньні, прысутнічаюць момант нараджэньня "души живой" і моцная надзея на тое, што ня прыйдзецца нашай Белай Вежы перажыць дзень гора й разбурэньня. У эпоху прыніжаючых чэргаў і чарнобыльскага Апакаліпсіса, быццам выратавальны подых чыстага паветра, нясецца па Беларусі песенны рэфрэн:

"Гуляй, душа, гуляй!
Хоць тут зусім ня рай.
Але, прынамсі, родны край.
Гуляй, гуляй, душа!"

...Адважна й цьвёрда стаялі яны нядаўна на сцэне летняга амфітэатра фэстываля беларускай песьні й паэзіі "Маладэчна-94" падчас акцыі падтрымкі разагнанай цяперашнімі ўладамі радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная". Іх позіркі былі накіраваныя на кожнага, хто прысутнічаў на выступе. Яны "аддавалі" і ўсмоктвалі салідарна ірвучаеся з мноства глотак "наш карабель яшчэ плыве, наш рок-н-рол яшчэ жыве..." і бяз перадышкі далей і далей вялі за сабой. Яны ведаюць: іх мара - "мроя" - вышэй!

**Віталь СЯМАШКА.**

## «СПАСІБО, СЯБРЫ»

У мікраraёне Дзевятоўка каля стадыёна СШ N 25 прайшло сьвята вуліцы Брыкеля (П.Брыкель - генэрал, адзін з удзельнікаў вызваленьня нашага гораду). На мой погляд, сьвята гэта, калі яго можна так назваць, зусім не атрымалася. Па-першае, на ім прысутнічалі чалавек 30-35 ветэранаў, палова якіх нават ня слухала вядучых, а вяла свае бытавыя размовы. Пра вядучага сьвяточнай праграмы таксама трэба напісаць некалькі слоў. Невядома было, на якой мове ён размаўляў - ці на расейскай, ці на беларускай, ці на дзеяньнісеўцы. Пасьля ўсіх віншаваньняў у адрас ветэранаў і ўспамінаў пра вайну адбыўся "канцэрт", у якім прымаў удзел ансамбль "Лістапад". Прасьпявалі, можа, 4 ці 5 песень, і ўсё сьвята. Ніякіх ні гульняў, ні конкурсаў, абяцаных арганізатарамі, не было. Увогуле, нічога цікавага. А на разьвітаньне вядучы сказаў: "Спасібо, сябры".

**Дзяніс САКАЛОЎСКІ.**

## ПЕРШЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТАЎ

Беларуская Нацыяналістычная Арганізацыя "Правы Рэванш" у хуткім часе скліча Зьезд Беларускіх Нацыяналістаў, які пройдзе ў адным з гарадоў Беларусі.

На Зьезьдзе будуць абмеркаваныя тактыка й стратэгія нацыяналістычнага руху.

Арганізацыя "Правы Рэванш" запрашае да актыўнага ўдзелу ў Зьездзе кожнага, хто лічыць сябе сапраўдным беларускім нацыяналістам.

Прапановы й заяўкі на ўдзел у Зьездзе просім падаваць на адрас: 220013, г.Менск, вул,Сурганава, 45/3, Адамовіч С.Г., альбо па тэлефону 36-43-62 у Менску.

**Аргкамітэт.**

Васіль РАГУЛЯ

# УСПАМІНЫ

(Працяг.Пачатак у NN21-25)

У заходніх краінах з арганізаваным палітычным жыцьцём партыйныя касы папаўняліся самаападаткаваньнем сябраў і ахвярамі прыватных асобаў - сымпатыкаў тае ці іншае партыі. На ўсходзе, у Расеі, касы СД і СР папаўняліся, акрамя ахвяраў багатых людзей, шляхам так званых эспрапрыяцыяў - абрабаваньняў. Так у свой час былі аграблены мытныя карэткі ў Пецярбурзе на Фантанцы, у Тыфлісе (Сталінам) і Маскоўскае Таварыства Ўзаемнага Крэдыту. Гэта дало падпольным арганізацыям агулам 1.500.000 залатых рублёў. Мы, беларусы, ня мелі ў сваім распараджэньні ніводнага з гэтых сродкаў. А грошы патрэбны былі на аплату працаўнікоў Клюбу, на канцылярныя і паштова-тэлеграфічныя расходы. Востра стаяла пытаньне з матэр'яльным палажэньнем Віленскай і Навагрудзкай гімназіяў. Пры адсутнасьці дапамогі звонку яны, бязумоўна, зачыніліся б. Трэба было ратаваць палажэньне. Пасольскі Клюб адзінагалосна пастанавіў затрымоўваць на грамадзкія патрэбы 30 працэнтаў з дыетаў, што выплачваліся паслом. Гэта давала 300 злотых з кожнага пасла і сэнатара ў месяц, а ў агульнай суме - 4.500 злотых, што паводля тагачаснага курсу складала 900 даляраў. З іх выдаваліся некаторыя сумы на гімназіі. Якія, ня памятаю. Ува усякім выпадку крытычнасьць мінула. Гімназіі ледзь жылі. Сябры Клюбу ламалі сабе галовы ў пошуках другіх крыніцаў.

Паслом заставалася 700 злотых у месяц. Гэтага павінна было хапіць на ўтрыманьне сям'і, на гатэлі і харчы ў Варшаве ды на расходы ў часе выездаў па акрузе (памешканьне, харчы і хаця б мінімальная дапамога выдатнейшым працаўнікам на правінцыі). Аб падтрымцы з боку выбаршчыкаў пакуль што ня можна было і думаць.

## НУТРАНЫ СТАН КЛЮБУ

Палітыка Тарашкевіча гутарак з палякамі не давала ніякіх надзеяў на перамены на лепшае ў беларуска-польскіх суаднсінах. Ягоныя канфэрэнцыі з маршалкам Сойму Ратаем закончваліся нічым, хоць Тарашкевіч і меў сярод палякаў старых знаёмых па Петраградзе і Вільні, як Бітнэр, Касьцялкоўскі, Ваевудзкі і інш.

Палякі стараліся ня тушыць, а раздзьмухваць польска-беларускую варажнечу шляхам прасьледаваньня нават беларускіх паслоў. Так, дзякуючы інтрыгам польскай адміністрацыі, найвышшы суд у Варшаве скасаваў мандат пасла Каліноўскага па Беластоцкай акрузе. Гэта было зроблена на аснове, што Каліноўскі, як сын расейскага ўрадаўца, быццам ня меў польскага грамадзянства. Ягоны бацька перад 1-ай сусьветнай вайной быў вясковым фэльчарам у родным Ваўкавыскім павеце і там жа Каліноўскі атрымаў у спадчыну пасьля сьмерці бацькі невялікую сялянскую гаспадарку, што давала яму права аўтаматычна як аўтахтону мець польскае грамадзянства.

Супроць паслоў Гродзеншчыны, Барана і Якавюка, стараньнямі дэфэнзывы была змантавана судовая афэра аб шпіёнстве на карысьць Летувы. Іх абодвых прысудзілі на 4 гады цяжкай турмы. Толькі Якавюк, які да апэляцыйнага суда быў на волі, здолеў уцячы цераз Данцыг у Летуву. Баран адсядзеў 4 гады і за згодаю савецкага Палпрэдства ды з ягонаю візаю выехаў у СССР. Каліноўскі з жонкаю, у такі самы спосаб, выехалі ў БССР, у Менск. Аб далейшым іх лёсе нічога ня ведама. На месца Каліноўскага ў Сойм увайшоў Валошын. Гэта быў паштальён, чалавек малавыраблены, з камуністычным ухілам, сьмелы й рашучы. Ён напэўна мог быць "экспрапрыятарам" мытных карэтак і банкаў.

Да часу прыходу Валошына Клюб быў незадаволены тактыкаю ўгоды. Гэта адбілася рэхам на месцах. У Вільні з рук у рукі пачала хадзіць бязьвінная карыкатура на Тарашкевіча: конь імчынь на ўсход, а Тарашкевіч на кані, з мячом і тварам на захад, трымаецца за хвост каня. Ар'ентацыя на ўсход сярод беларусаў, асабліва праваслаўных, узмацнялася. Каталіцкая частка, якою кіравалі беларускія ксяндзы, моцна трымалася ар'ентацыі на самых сябе. Былі, зразумела, і з ар'ентацыяй на Польшчу. Я асабіста быў таксама прыхільнікам усходу. Я лічыў, што Польшча, з прычыны свайго стратэгічнага і геаграфічнага палажэньня, ня пойдзе на нейкую фэдэрацыю з аб'яднанаю Беларусьсю. Летува, Латвія і Эстонія былі, паводле маёй думкі, сэзоннымі дзяржавамі. Апораю Беларусі яны не маглі быць у ніякім выпадку. Адсюль лягічна вынікала ар'ентацыя на ўсходняга суседа. Здавалася, што там будуецца "Беларускі дом". Пакуль бальшавікі былі слабыя, беларусы чуліся гаспадарамі на сваёй тэрыторыі. З часам, пачуўшы ў сілах, бальшавікі анулявалі ўсе свае ўступкі. Беларуская інтэлігенцыя была зьліквідавана, а беларусаў пачалі стрыгчы пад маскоўскі грэбень.

Тарашкевіч, расчараваны ў сваіх сымпатыях да палякаў, пастанавіў пакінуць становішча старшыні Клюбу, хоць ніхто яго і не змушаў да гэтага. Клюб выбраў старшынёю Рагулю. Тое самае адбылося і ва Ўкраінскім Клюбе, дзе Васынчука замяніў пасол Хруцкий.

Было вырашана заняць становішча безадказнай апазыцыі ў сойме, заваструючы выступленьні, ды на месцах, заклікаючы народ да арганізаванай барацьбы. Вось дзе корань будучага падзелу Клюбу на Нацыянальны Клюб і Сялянска-Работніцкую Грамаду. Яшчэ перад пераменай старшыні Рагуля запрапанаваў стварыць сялянскую радыкальную партыю. У аснову праграмы было запрапанавана паставіць бясплатнае адчужаньне на базе нацыяналізацыі ўсіх родаў зямлі і бясплатны надзел ёю безьзямельных і малазямельных сялян на аснове хутарнай сыстэмы. Была выпрацавана і адпаведная партыйная праграма. Умяшаньне Менску і Масквы перабліталі ўсе карты.

Трэба сказаць, што ўсе беларускія паслы і сэнатары, за выняткам сэнатара Ўласава і пасла Аўсяніка, заходзілі ў савецкае пасольства ў Варшаве. Адны прасілі перасылаць каму-небудзь грошы за пасярэдніцтвам Зьнешгандлю або прыняць у саветы якую-небудзь эміграцкую сям'ю, другія рабілі даведкі аб сваяках і знаёмых, што засталіся ў Саветах, не кранаючы ніякіх другіх пытаньняў. Мне самому давялося асабіста адведаць пасла Войкава з просьбаю даць беспаваротную візу для пазбаўленага мандату пасла Каліноўскага з жонкаю. Усе беларускія просьбы палагоджваліся бесьпярэчна і хутка. У такі спосаб Саветы расстаўлялі паволі сеткі для лову беларускіх душаў. Урадаўцы пасольства ўвіваліся каля нашых паслоў. Так нейкі Кабецкі, які пасьля зрабіў няўдалую спробу дзяржаўнага перавароту ў Эстоніі ў Тальліне, круціўся каля Кахановіча. Ад яго Кахановіч атрымаў на беларускія патрэбы 500 дал. Грошы былі здадзены ў касу Клюбу.

Пастанова аб завастрэньні змаганьня на месцах, шмат кім з сяброў не праводзілася ў жыцьцё. Былі выпадкі, калі мая просьба выехаць куды-небудзь на акругу адхілялася дзеля нейкай выдуманай прычыны. Пасол Аўсянік катэгарычна адказаў: "Я не паеду і з соймавай трыбуны гаварыць ня буду; усёроўна ў будучыні мяне ня выберуць паслом". Кахановіч рэдка калі прыходзіў у цьвярозым стане на паседжаньні Сойму. Аднойчы, будучы да непрытомнасьці п'яным, у буфэце галоўнай станцы ў Варшаве забраў з-пад носа нейкага спадара катлету, а ў другога шклянку піва. Назаўтра ў "Warszawskiej Porannej Gazecie" з гэтай нагоды зьявіўся артыкул Новічыньскага пад загалоўкам: "Wywlaszczenie kotletu bez odszkodowania". Спэцыяльнае паседжаньне Клюбу, дзе прысутны і Кахановіч. Я паставіў пытаньне рубам. Я сказаў: "Міхаіл Сяліванавіч! Адмоўцеся ад мандату і вызвальце мае акругу ад гэткага дэпутата". Па твары ў яго пакаціліся сьлёзы. Ён адказаў: "Я - хворы". - "Калі вы хворы - вось вам лякарства" - і я выняў з кішэні маленькую бутылачку стрыхніны. Я ўсё ж налягаў на сваім. Клюб прыняў кампрамісовую пастанову. Кахановіч піша заяву і даручае яе мне. Я магу зрабіць з яе ўжытак толькі ў выпадку, калі падобны выбрык паўторыцца, і толькі пры аднагалоснай пастанове Клюбу. Чакаць доўга не давялося.Ён выклікаў авантуру з афіцэрам у вагоне. Клюб пастанавіў даць ход ягонай заяве. Кахановіча ўгаварылі ехаць у Данцыг, дзе сэнатар Назарэўскі пры пасярэдніцтве савецкага агента, нейкага Курляндзкага, пасадзіў Кахановіча на савецкі параплаў, забраў ягоны дэпутацкі дакумэнт, даўшы яму ўзамен з клюбавай сумы 300 рублёў золатам.

На месца Кахановіча ўвайшоў Юрка сабалеўскі, што сядзеў у навагрудзкай вязьніцы, ды на пастанову Сойму быў вызвалены дзеля выконваньня дэпутацкіх абавязкаў. Пакрыўджаны палякамі Тарашкевіч павярнуў стырно на 180 градусаў налева. Ён зрабіўся прыхільнікам Саветаў. Некаторыя гаварылі, што ён нават быў уступіў у камуністычную партыю. Цьвердзіць гэта я ня маю асноваў.

У міжчасе каля нашых паслоў пачалі ўвівацца савецкія агенты. Аднойчы я застаў у маім памешканьні нейкага чалавека. Ён сказаў, што прыехаў з саветаў і хоча гутарыць з беларускімі прадстаўнікамі. Я ўладзіў зборку, запрасіўшы Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага і Мятлу. У доўгіх гутарках незнаёмы мне чалавек угаварваў мяне адкінуць буржуазныя перажыткі, адкінуць пачуцьцё дробнай сялянскай собскасьці і на гэтай базе арганізаваць у Заходняй Беларусі новую партыю. Мае сябры не ўмешваліся ў нашую дыскусію. На маё пытаньне, што гэта будзе за партыя - камуністычная, - быў адказ: "Не, гэта будзе мосьцік да камунізму".Я ведаў, што прысутныя мае калегі сымпатызавалі Саветам, і дзеля гэтага сказаў: "Таму што я не хачу ісьці на другі бераг (камунізм), дык не пайду і на мосьцік. Цяпер я лічу, што мая далейшая прысутнасьць тут ёсьць лішняя. Маё памешканьне ў вашым распараджэньні, працягвайце! Даю вам слова гонару, што буду аб гэтым маўчаць". Без мяне яны пастанавілі арганізаваць новую партыю - "Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду". У такі спосаб нарадзілася і ахрысьцілася Грамада, што пацягнула пасьля за сабою пагібель маіх сяброў, сумленных, шчырых беларусаў - патрыётаў свае Бацькаўшчыны.

## IV

## РОСТ І РАЗЬВІЦЬЦЁ БЕЛАРУСКАЙ СЯЛЯНСКА-РАБОТНІЦКАЙ ГРАМАДЫ

### ПАДЗЕЛ ПАРЛЯМАНЦКАГА ПРАДСТАЎНІЦТВА

Яшчэ перад заснаваньнем Грамады Тарашкевіч у адным са сваіх соймавых выступленьняў, крытыкуючы адносіны палякаў да беларусаў, супрацьпаставіў іх палітыку палітыцы Саветаў. Ён сказаў, што тут, у Польшчы, нічога нам не даюць, нават з таго, што гарантавана канстытуцыяй. Там жа, на ўсходзе, будуецца "Беларускі дом", разумей - беларуская дзяржава - БССР. У тое, што на ўсходзе сапраўды арганізуецца беларуская дзяржава, у якой самы беларусы будуць гаспадарамі, верылі ня толькі адзін Тарашкевіч і ягоныя сябры. У гэта паверылі нават некаторыя сябры Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі на эміграцыі, у Чэхіі. Частка з іх даверліва пераехала ў БССР, дзе ўсе яны пагінулі ў засьценках ГПУ або ШИЗО (Штрафной Изолятор) у канцлягерох. Іх лёс падзялілі і мясцовыя нацыяналісты, як іх называлі бальшавікі - нацдэмы. Адны, як старшыня Соўнаркому Беларусі - Чарвякоў, праф. Ігнатоўскі - закладчык Беларускай Акадэміі Навук і Галадзед, скончылі самагубствам, не жадаючы жыўцом аддацца ў рукі ГПУ. Іншыя, як камандуючы войскамі Беларускай Ваеннай Акругі гэнэрал Убарэвіч, былі расстраляны. Вось у якую пастку папала Грамада і яе кіраўнікі.

Пасьля падзелу Клюбу, Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла і Валошын стварылі фракцыю Сялянска-Работніцкай Грамады. Пазьней да яе прылучыўся і Ю.Сабалеўскі, якога выпусьцілі з турмы. Сабалеўскі хістаўся, куды прыстаць: да нас ці да Грамады. Я яму сказаў, што калі ён думае шукаць у будучыні ратунку на ўсходзе - дык няхай ідзе ў Грамаду, калі ж думае застацца ў Польшчы, дык лепш далучыцца да нас, не задумоўваючыся аб тым, што нас чакае. Рэшта паслоў і сэнатараў стварылі Беларускі Нацыянальны Клюб. У ягоны склад увайшлі Сялянскі Саюз з Рагуляю і Ярэмічам, Хрысьціянская Дэмакратыя з кс.А.Станкевічам і беспартыйныя. Сялянскі Саюз пачаў выдаваць свой орган "Сялянская Ніва", а органам Хрысьціянскай Дэмакратыі засталася "Крыніца".

У сваёй дэклярацыі ад імя Клюбу з трыбуны Сойму В.Рагуля заявіў: "Stoimy przy naszym sztandarze narodowym i przy nim stac bediemy".

Нечаканы для шырокіх масаў раскол Клюбу выклікаў на месцах прыгнятаючае ўражаньне. Выбаршчыкі не маглі зразумець таго, што сталася і падчас сустрэчаў пыталіся аб прычынах. Ня ведаю, як высьнілі паслы-грамадоўцы, але мы, сябры Клюбу, туманна і няўпэўнена даводзілі неабходнасьць дыфэрэнцыяцыі сілаў. Туманнасьць і няўпэўненасьць нашых тлумачэньняў была наследкам нашага нежаданьня выяўляць перад выбаршчыкамі, сярод якіх былі й агенты дэфэнзывы, пракамуністычны настрой Грамады. Гэта мела б характар даносу і магло б быць выкарыстана Грамадою ў палеміцы супроць нас. Клюб быў вельмі асьцярожны ў крытыцы Грамады, імкнучыся захоўваць з ёю добрыя суадносіны, і на гэтым шмат траціў у вачах выбаршчыкаў. З пасламі-грамадоўцамі былі нядрэнныя, калі не сказаць добрыя суадносіны. З Тарашкевічам мы часта па-сяброўску гутарылі. Валошын давяраў мне ўсе партыйныя тайны, а з сабалеўскім мы сябравалі.Інакш было на месцах, а асабліва ў прэсе. Нажаль, наш выбаршчык тады яшчэ не навучыўся крытычна падыходзіць да друкаванага слова. Ён верыў, што ўсё, што надрукавана ў газэце - 100 працэнтаў праўда. Гэта стараліся выкарыстаць грамадоўскія газэты, што выходзілі адна за другою пад рознымі назовамі.

Працяг будзе.

# АДДАНЫЯ РАДЗІМЕ Й ПРАДАНЫЯ ГЭТАЙ РАДЗІМАЙ...

Калегі з г.Яраслаўля даслалі нядаўна па маёй просьбе поўны сьпіс расстраляных у 1937-38 г.г. жыхароў Яраслаўскай вобласьці, якія нарадзіліся ў Гарадзенскай, Менскай, Магілёўскай, Віцебскай і Віленскай губэрнях. Праглядаю гэтыя сьпісы, складзеныя па альфабэту, падсьвядома ўяўляю гэтых людзей, якія па тых ці іншых прычынах зьвязалі свой лёс з Яраслаўскай вобласьцю. Машынальна пралічваю й вызначаю ўзрост кожнага расстралянага, адзначаю пункты сумна вядомага 58-га артыкула Крымінальнага кодэксу РСФСР, згодна якому бяздушныя робаты-чэкісты фабрыкавалі сьледчыя справы для Тройкі УНКВД.

Рабочы, калгасьнік, зноў рабочы, служачы, партыйны работнік, зноў рабочы... І раптам у мяне перад вачыма тэкст: Ількевіч Іван Канстаньцінавіч, 1876 года нараджэньня, вёска Бараўцы Віцебскага павету Віленскай губэрніі, беларус, працаваў сьлесарам на Яраслаўскім гумава-азбэставым камбінаце, арыштаваны 24 жніўня 1937 года, абвінавачаны па артыкулу 58 п.п. 8 і 11 КК. Расстраляны 20 студзеня 1938 года. Як? Хто такі? Далёкі сваяк альбо папросту аднафамілец?

За сваю вайсковую службу я двойчы сустракаў аднафамільцаў: у Самаркандзе і ў Баку. Але тут, так адразу... У галаве ўсё зьмяшалася.

Ужо каторы раз вочы бегаюць па скупых радках, намагаюся сканцэнтраваць увагу, але ўвесь час у галаве ўзьнікаюць усё новыя й новыя пытаньні. Іх было мноства, і я хацеў атрымаць на іх адказы, хоць падсьвядома разумеў, што гэта папросту немагчыма...

Мінуў яшчэ месяц, і тое, што здавалася немагчымым раней, таксама адышло ў мінулае. Я здолеў азнаёміцца з матэрыяламі крымінальнай справы N 3128 па абвінавачаньню грамадзяніна Ількевіча Івана Канстаньцінавіча.

Напэўна, зараз я ня здолею падрабязна перадаць усе свае адчуваньні з таго моманту, калі на маім стале ляжалі гэтыя дакумэнты, аб якіх я ўвесь час думаў, атрымаўшы сьпіс расстраляных з Яраслаўля. Аднак мае асабістыя хваляваньні - не самае галоўнае й цікавае. Затое я й мой чытач маем магчымасьць зазірнуць у 1937 год і даведацца аб падрабязнасьцях таго, што яшчэ зусім нядаўна хавалася як сьвятая сьвятых за сям'ю пячаткамі ў архівах былога НКВД - МГБ - КДБ СССР.

Ількевіч Іван Канстаньцінавіч быў арыштаваны трэцім аддзелам Упраўленьня дзяржаўнай бясьпекі УНКУС па Яраслаўскай вобласьці 24 жніўня 1937 года і ў гэты ж самы дзень узяты пад варту ў Яраслаўскую турму. У анкеце Ількевіча ёсьць яшчэ й дадатковыя зьвесткі аб ім: нарадзіўся ў студзені 1876 года, жыў у Яраслаўлі па Тутаеўскай шашы, непісьменны, быў пабраны шлюбам з Ількевіч Марыяй Васільеўнай, меў чатырох сыноў.

Першы допыт у якасьці абвінямага Ількевіча быў праведзены 10 верасьня 1937 года. Зусім не падазраваючы аб якой-небудзь правакацыі з боку супрацоўнікаў дзяржаўнай бясьпекі, ня маючы вопыту весьці з імі размовы і ў сілу таго, што ўвогуле ні ў чым не лічыў сябе вінаватым, Ількевіч добрасумленна й шчыра адказвае на пытаньні сьледчага:

**- Пытаньне:** Вы перебежчик со стороны Польши?

**- Адказ:** Так.

**- Пытаньне:** Когда вы перешли границу?

**- Адказ:** У 1923 годзе трэцяга жніўня.

На другім допыце, які чыніўся 23 кастрычніка, Ількевіч у сувязі з абвінавачаньнямі па нелегальнаму пераходу мяжы падрабязна распавядаў аб прыездзе ў СССР з Польшчы.

"У 1923 годзе пасьля пераходу граніцы з тэрыторыі Польшчы ў СССР я, Ількевіч, разам з Петрашэвічам Аляксеем зьявіліся самі ў пагранічны горад Барысаў у былое ОГПУ, і там нас арыштавалі, адкуль накіравалі ў карантын, дзе трымалі паўтара месяца, пасьля чаго накіравалі ў Яраслаўскае ОГПУ, дзе мы знаходзіліся сем сутак і ўрэшце былі вызваленыя. Праз некалькі дзён я сам зьявіўся ў пракуратуру горада Яраслаўля з мэтай атрымаць дазвол, каб уладкавацца на працу. Пракурор Круглоў мне паведаміў, што на мяне наклалі два гады вольнай высылкі за нелегальны пераход граніцы... З 1923 года так і жыву ў горадзе Яраслаўлі."

Але праўдзівы аповяд арыштаванага не задавальняў чэкістаў, гэта ім было не патрэбна. На трэцім допыце (27 кастрычніка) Ількевіча абвінавацілі ў шпіёнскай дзейнасьці:

**- Пытаньне:** Следствие располагает проверенными данными о том, что вы в 1923 году были переброшены польскими разведывательными органами для шпионской работы на территорию СССР.

**- Адказ:** Я перайшоў граніцу нелегальна, каб жыць і працаваць у СССР.

**- Пытаньне:** Прекратите запирательство. Расскажите, когда и кем вы были завербованы для шпионской деятельности на территорию СССР?

**- Адказ:** Паўтараю, што ў СССР я прыехаў, каб чэсна працаваць...

Сьледзтва было скончана 29 кастрычніка. У прыгаворы запісана:

"...Праведзеным па справе сьледзтвам устаноўлена:

Ількевіч зьяўляўся удзельнікам польскай антысавецкай напалову палітычнай арганізацыі, створанай агентам польскіх разьведвальных ворганаў ксяндзом Юзьвікам...

Вінаватым сябе не прызнаў..."

Вось такое хворае ўяўленне паўтраматных чэкістаў, пляны на арэшты й асуджэньні да 20-годдзя ВЧК ОГПУ, патрабаваньні наркома Яжова зрабілі сваю справу: з падачы сьледчых Ількевіч стаў антысавецчыкам.

14 студзеня 1938 года рашэньнем наркома УС і пракурора СССР N 777 Ількевіч І.К. быў прыгавораны да расстрэлу і 20 студзеня расстраляны ў Яраслаўлі. Месца яго захаваньня не вядома.

Азначэньнем Ваеннага трыбунала Маскоўскай ваеннай акругі ад 28 кастрычніка 1957 года Ількевіч І.К. быў рэабілітаваны пасьмяротна, і справа ў адносінах да яго з-за адсутнасьці складу злачыннасьці прыпынена. Толькі ці ведаюць аб усім гэтым дзеці Ількевіча Івана Канстаньцінавіча?

**М.ІЛЬКЕВІЧ, г.Смаленск.**

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗЬМЕШЧАНУЮ Ў N 25

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1.Патоп. 2.Абвал. 6.Раса. 8.Іскра. 9.Фокус. 10.Ганак. 13.Эліза. 17.Ураган. 18.Шторка. 19.Колас. 22.Качар. 25.Алмаз. 28.Тара. 29.Эфір. 30.Метка. 31.Рубін. 32.Катах. 33.Лава. 34.Тэма. 35.Князь. 38.Тарка. 41.Нарад. 46.Тэрмас. 47.Прэлат. 48.Старт. 51.Касяк. 52.Абрус. 53.Ларок. 54.Арфа. 55.Сіта. 56.Дачка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1.Плісэ. 2.Таксі. 3.Прага. 5.Віктар. 7.Саната. 9.Фраза. 11.Карал. 12.Руно. 14.Лыка. 15.Зала. 16.Фата. 19.Комік. 20.Лютня. 21.Сталь. 22.Карат. 23.Чабор. 24.Рэнта. 25.Аркан. 26.Матор. 27.Захад. 36.Нота. 37.Зарок. 39.Абат. 40.Кадр. 42.Атлас. 43.Анты. 44.Карсар. 45.Арарат. 48.Склад. 49.Абруч. 50.Такса.



## ПОЛЬСКАЕ ТЭЛЕБАЧАНЬНЕ

### ПАНЯДЗЕЛАК, 15.08

**ПРАГРАМА І**

08 00 Польскія танцы. 08 30 За сям'ю гарамі. 09 15 "Дынастыя". Серыял выдв. ЗША. 10 10 "Кароль Матэуш І". Фільм вытв. Польшчы. 11 40 Праграма каталіцкай рэдакцыі. 12 00 Дакументальны фільм. 12 55 Трансляцыя ўрачыстасцей магілы Невядомага салдата. 13 30 Дакументальны фільм. 13 50 Сямейныя спевы. 14 20 Краіна Амерыка. 14 45 Дакументальны фільм. 15 20 У старым кіно. 16 50 Фрагменты прадстаўлення. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 "Сустрэча ў Аўроры". Фільм вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 Фестываль польскай тэлетворчасці. 22 40 Мініяцюры. 22 50 Музычнае прадстаўленне. 23 40 Спартыўная студыя. 00 10 "Чорны нарцыс". Фільм вытв. Англіі. 01 50 Забаўляльная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

09 00 Прывітанне. 09 05 Тэлежурнал. 09 10 "Бура". Мультфільм вытв. Англіі. 09 40 Песні сонечнай вуліцы. 10 00 Мясцовая праграма. 10 30 Фестываль музыкі. 11 00 Рэпартаж. 11 20 Фестываль марской песні. 12 10 Дакументальны фільм. 12 35 С. Манюшка. 13 00 "Кіт Галахад". Фільм вытв. ЗША. 14 30 Рэпартаж. 14 55 Канцэрт. 15 45 Рэпартаж. 16 25 Духоўныя шляхі. 17 00 Прывітанне. 17 10 "Здраўка". Серыял ЗША. 17 35 Тэлежурнал. 18 10 Чвэрць гадзіны з Хемарам. 18 30 Т. Дрозда. Бенефіс. 19 35 Тэлетурнір. 20 005 Дакументальны фільм. 21 00 Канцэрт. 22 00 Панарама. 22 35 'Толы пісталет". Камедыя вытв. ЗША. 00 00 Канцэрт. 00 30 Музычна-паэтычная праграма. 01 00 Панарама. 01 05 Канцэрт.

### АЎТОРАК, 16.08

**ПРАГРАМА І**

07 00 Кава ці гарбата? 09 05 Мультфільм. 09 30 Кава ці гарбата? 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 00 "Жыццё". Серыял вытв. Японіі. 11 45 Еўрапейскі партрэт. 11 55 Музычная праграма. 12 00 Рынак працы. 12 20 Англійская мова. 12 30 Сельскагаспадарчая праграма. 13 00 Навіны. 13 10 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Зонд. 13 45 Свет на двух колах. 14 00 Зорнае вандраванне. 14 15 Лета з навукай. 14 30 Канікулы з кампутарам. 14 40 Жамчужыны архітэктуры. 15 00 "Канзанчык". Фільм вытв. ЗША. 16 15 Запіскі падарожніка. 16 30 Аўтаманія. 17 00 Праграма для дзяцей. 17 50 Музычная праграма. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 25 Музычны тэлетурнір. 19 05 Мультфільм. 19 30 Незвычайны перагляд. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "На сёмым небе". Фільм вытв. Аўстраліі. 22 45 Толькі ў першай праграме. 23 30 Забаўляльная праграма. 00 00 Навіны. 00 10 Сустрэча Папы Рымскага з моладдзю. 00 45 "Паліцэйскі рок-н-рол". Серыял вытв. ЗША. 01 30 Студыя "Гама". 02 40 Праграма французскага тэлебачання.

**ПРАГРАМА 2**

08 30 Панарама. 08 35 Прывітанне. 08 40 "Прыгоды Блэка". Сэрыял вытв. Канады. 09 05 Мясцовая праграма. 09 35 Спартыўная студыя. 10 00 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 10 30 Спыненне другой праграмы. 11 00 Спартыўная праграма. 12 00 "Забароненае каханне". Серыял вытв. Венесуэлы. 12 45 Рэпартаж. 13 00 Музычнае лета ў другой праграме. 13 50 Тэлежурнал. 14 00 Панарама. 14 15 Камічная опера. 15 15 Рэпартаж. 15 30 Мой маленькі свет. 15 50 Праграма дня. 16 05 Зброя XX стагоддзя. 16 35 "Прыгоды Блэка". Серыял вытв. Канады. 17 00 "Доктар Мурэк". Серыял вытв. Польшчы. 18 00 Тэлежурнал. 18 10 Каталіцкая праграма. 18 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 19 00 Панарама. 19 05 Мясцовая праграма. 19 30 Тэлетурнір. 20 05 "Як гэта зрабіў Біл?". Серыял вытв. Германіі. 21 00 Над палітыкай. 22 00 Панарама. 22 30 Спісы памяці. 22 40 Спартыўная праграма. 22 50 Экалагічная праграма. 23 00 "Раз, два, тры". Камедыя вытв. ЗША. 00 45 Рэпартаж. 01 00 Панарама. 01 05 Музычная праграма. 01 35 "Вогненны крыж". Серыял вытв. ЗША.

### СЕРАДА, 17.08

**ПРАГРАМА І**

07 00 Кава ці гарбата? 09 05 "Партфель". Фільм вытв. Польшчы. 09 35 Кава ці гарбата? 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 00 "Сонечны патруль". Серыял вытв. ЗША. 11 55 Музычная праграма. 12 00 Сто гадоў. 12 20 Англійская мова. 12 30 Сельскагаспадарчая праграма. 13 00 Навіны. 13 10 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 10 Бешчады. 13 20 У пачатку сана. 13 40 Бешчады. 13 50 Тайны ікон. 14 15 Бешчады. 14 25 Горад з арлом і трохзубцам. 14 55 Праграма дня. 15 00 "Што са мной зробіш, калі зловіш?" Фільм вытв. Польшчы. 16 40 Летняе MTV. 17 00 Праграма для моладзі. 17 50 Музычная праграма. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 30 Тэлежурнал спажыўца. 19 05 "Сонечны патруль". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 Спартыўная праграма. 22 05 "Спякота тропікаў". Серыял вытв. ЗША. 23 00 Пульс дня. 23 10 Спартыўная студыя. 00 00 Навіны. 01 55 Фестываль Вроцлаў-94. 02 25 Рэпартаж.

**ПРАГРАМА 2**

08 30 Панарама. 08 35 Прывітанне. 08 40 Мультсерыял. 09 05 Мясцовая праграма. 09 35 Тэлежурнал. 10 00 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 10 30 Спыненне другой праграмы. 11 00 Дакументальны фільм. 11 55 "Сем жаданняў'. Серыял вытв. Польшчы. 13 00 Музычнае лета ў другой праграме. 14 00 Панарама. 14 15 Цыркі свету. 15 30 Спартыўная праграма. 16 00 Праграма дня. 16 05 Дакументальны фільм. 16 35 Праграма для дзяцей. 16 55 "Доктар Мурэк". Серыял вытв. Польшчы. 17 55 Розыгрыш лато. 18 00 Спыненне другой праграмы. 18 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 19 00 Панарама. 19 05 Мясцовая праграма. 19 35 Тэлетурнір. 20 05 Дакументальны фільм. 20 45 Незакончаны падзел. 21 00 "Справы Росі О'Нэйл". Серыял вытв. ЗША. 21 45 Цені жыцця. 22 00 Панарама. 22 30 Экспрэс рэпарцёраў. 23 05 "Радыёраманс". Серыял вытв. Польшчы. 23 35 Фестываль польскай тэлетворчасці. 00 15 Легенда не памірае. 00 40 Рэпартаж. 01 00 Панарама. 01 05 Арт-ноч.

### ЧАЦВЕР, 18.08

**ПРАГРАМА І**

07 00 Кава ці гарбата? 09 05 "Маленькі цуд". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Кава ці гарбата? 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 05 "Спякота тропікаў". Серыял вытв. ЗША. 12 00 Тэлежурнал. 12 20 Англійкая мова. 12 30 Сельскагаспадарчая праграма. 13 00 Навіны. 13 10 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Заапаркі. 13 40 Гэта няпраўда, што... 13 55 Як накормліваюцца галодныя. 14 15 Зялёны ключ. 14 35 Рабінзоны. 14 55 "Канікулы". Фільм вытв. ЗША. 16 45 Забаўляльная праграма. 17 00 Праграма для моладзі. 17 50 Музычная праграма. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 30 Каталіцкая праграма. 19 05 "Маленькі цуд". Серыял вытв. ЗША. 19 30 Забаўляльная праграма. 20 00 З'еш гэта сам. 20 15 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Старк". Фільм вытв. ЗША. 22 45 Урадавы журнал. 22 55 Толькі ў першай праграме. 23 35 Музычная праграма. 23 45 Паліцэйскі журнал. 00 00 Гаспадарчыя навіны. 00 15 Погляд на моду. 01 05 "Мужчына майго жыцця". Фільм вытв. Францыі. 02 45 Забаўляльная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 30 Панарама. 08 35 Прывітанне. 08 40 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 09 05 Мясцовая праграма. 09 35 Спартыўная студыя. 10 00 Трансляцыя паседжанняў сейма. 14 00 Панарама. 16 00 Праграма на вечар. 16 05 Парад свабоды. 16 35 "Тарзан". Серыял вытв. Германіі. 17 00 "Доктар Мурэк". Серыял вытв. Польшчы. 18 00 Праграма пра жывёл. 18 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 19 00 Панарама. 19 05 Мясцовая праграма. 19 35 Кола фартуны. 20 05 Тэлежурнал. 20 30 Прафесія - аматар. 21 00 Партрэт кампазітара. 22 00 Панарама. 22 30 Спартыўная студыя. 22 40 Гістарычная праграма. 23 00 "Бог натоўпу". Фільм вытв. ЗША. 01 00 Панарама. 01 05 Залатыя шасцідзесятыя.

### ПЯТНІЦА, 19.08

**ПРАГРАМА І**

07 00 Кава ці гарбата? 09 05 "Брыльянты раджы". Камедыя вытв. Польшчы. 09 35 Кава ці гарбата? 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 05 "Маладыя вершнікі". Фільм вытв. ЗША. 11 55 Музычная праграма. 12 00 Школа для бацькоў. 12 20 Англійская мова. 12 30 Сельскагаспадарчы журнал. 13 00 Навіны. 13 10 Адукацыйнае тэлебачанне. 14 55 Праграма дня. 15 00 "Быў джаз". Фільм вытв. Польшчы. 16 35 Культурна-публіцыстычная праграма. 17 00 Праграма для дзяцей. 17 50 Музычная праграма. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 У кіно і на касеце. 18 40 Тэлежурнал. 19 00 Спатканне "у цёмную". 19 45 Сатырычная праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Аўтобусны прыпынак". Фільм вытв. ЗША. 22 50 Пульс дня. 23 10 Тэлежурнал. 23 40 Забаўляльная праграма. 00 00 Навіны. 00 10 "Месяц-парк". Фільм вытв. Францыі. 01 55 Канцэрт.

**ПРАГРАМА 2**

08 30 Панарама. 08 35 Прывітанне. 08 40 Мультсерыял. 09 05 Мясцовая праграма. 09 35 Спартыўная праграма. 10 00 Трансляцыя паседжанняў сейма. 14 00 Панарама. 16 00 Праграма дня. 16 05 Зброя XX стагоддзя. 16 35 Мультфільм. 17 00 "Паляцець адсюль". Серыя вытв. ЗША. 18 00 Фестываль польскай тэлетворчасці. 18 30 Адзін з дзесяці. 19 00 Панарама. 19 05 Мясцовая праграма. 22 00 Панарама. 22 30 Спісы памяці. 22 40 Спартыўная праграма. 22 50 Забаўляльная праграма. 23 25 "Прыпынак Аляска". Серыял вытв. ЗША. 00 10 Тэлетэатр. "Фірма". 01 35 Панарама. 01 40 Спартыўная студыя.

### СУБОТА, 20.08

**ПРАГРАМА І**

07 55 Агралінія. 08 35 Рэпартаж. 08 45 Усё аб агародзе. 09 10 "Падабраная пара". Серыял вытв. Польшчы. 10 00 Навіны. 10 10 "Зерне". Праграма каталіцкай рэдакцыі для дзяцей. 10 35 Праграма для дзяцей. 12 00 Падводная адысея капітана Кусто. 12 45 Час пачатку. 13 00 Навіны. 13 10 Рэпартаж. 13 40 Такі свет. 13 55 Фестываль польскай тэлетворчасці. 14 35 Каталіцкая праграма. 15 00 Мультфільмы Дыснея. 16 10 Тэлетэатр. "Дурны Якуб". 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Культурна-публіцыстычная праграма. 19 05 "Падабраная пара". Серыял вытв. Польшчы. 20 00 Фестываль польскай тэлетворчасці. 20 10 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Няўлоўны Купер". Камедыя вытв. ЗША. 23 05 Рэпартаж. 23 25 Навіны. 23 35 Спартыўная субота. 00 45 "Жаданне смерці". Фільм вытв. ЗША. 02 15 "Страх". Трылер вытв. Англіі. 03 40 Забаўляльная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 30 Панарама. 08 35 Рэпартаж. 09 00 Праграма для дзяцей. 10 00 Такія адзінокія. 10 20 Прывітанне. 10 35 Польскія манастыры. 11 05 Спыненне другой праграмы. 11 40 Дзірка ў кошыку. 12 00 Камічная опера. 13 00 Акадэмія польскага кіно. 14 30 Лісты з Еўропы. 15 00 Фестываль польскай тэлетворчасці. 15 30 Спартыўная праграма. 16 20 Студыя другой праграмы. 16 25 Жывёлы свету. 16 55 Розыгрыш лато. 17 00 Фестываль польскай тэлетворчасці. 17 50 Праграма на вечар. 18 05 Мастацкі фільм. 18 30 Тэлежурнал. 19 00 Панарама. 19 05 Мясцовая праграма. 19 30 Тэлетурнір. 20 00 Тележурнал. 21 00 Музычна-дакументальная праграма. 22 00 Панарама. 22 30 Слова на нядзелю. 22 35 Спяваем паэзію. 23 30 "Мсціўцы". Фільм вытв. ЗША. 00 40 Рэпартаж. 01 00 Панарама. 01 05 Музычная праграма.

### НЯДЗЕЛЯ, 21.08

**ПРАГРАМА І**

08 00 Сельская гаспадарка ў свеце. 08 15 Далёка і блізка. 08 35 Нядзеля. 09 30 Сельскагаспадарчая праграма. 09 55 Праграма дня. 10 00 Серыял вытв. Канады. 11 30 Школа выжывання. 12 10 Здароўе. 13 00 Тэлеканцэрт пажаданняў. 13 30 Фестываль польскай тэлетворчасці. 13 45 Музычныя тэлеканікулы. 14 40 У старым кіно. 16 30 Сто пытанняў. 17 05 Перац і ванілін. 17 40 Антэна. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 30 "Дынастыя Колбі". Серыял вытв. ЗША. 19 20 Праграма кабарэ. 19 30 Можна пасмяяцца. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Вяртанне ў Кентукі". Серыял вытв. ЗША. 22 00 Спартыўная нядзеля. 22 25 7 дзён - свет. 23 00 Аб вольным часе. 23 25 Публіцыстычная праграма. 00 10 "У крузе зла". Фільм вытв. Францыі. 02 20 Музычная праграма. 02 45 Забаўляльная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 30 Рэха тыдня. 09 00 Мультсерыял. 09 25 Слова на нядзелю. 09 30 Фільм для глухіх. 10 15 Прывітанне. 10 30 Мясцовая праграма. 11 30 Забаўляльная праграма. 12 00 Спартыўная студыя. 12 05 Серыял вытв. Англіі. 12 55 Спартыўная студыя. 13 00 "Замах". Фільм вытв. ЗША. 14 40 Спартыўная студыя. 15 00 Праграма пра жывёл. 15 25 Студыя другой праграмы. 15 30 Падарожжа ў часе і прасторы. 16 30 Спыненне другой праграмы. 17 00 Сатырычная праграма. 17 15 Прывітанне. 17 25 Серыял вытв. ЗША. 17 50 Дакументальны фільм. 18 20 Падзеі тыдня. 18 50 Тэлежурнал. 19 20 Студыя другой праграмы. 19 25 Тэлетурнір. 20 00 Музычны фільм. 20 30 Тэатральная праграма. 21 00 Забаўляльная праграма. 21 05 Фестываль польскай тэлетворчасці. 22 00 Панарама. 22 30 Фестываль польскай тэлетворчасці. 23 20 "Бязвінна арыштаваная". Серыял вытв. ЗША. 00 05 Паэтычная праграма. 01 00 Панарама. 01 05 Музычна-паэтычная праграма.

